# ДОБРА АТРЫМЛІВАЦЬ ЗАРПЛАТУ ВЫСОКУЮ І СПРАВЯДЛІВУЮ

Узровень заработнай платы, які складае для большасці людзей рэспублікі асноўную крыніцу даходаў, з'яўляецца адной з самых вострых праблем у сферы нашага жыцця. Аб гэтым заявіў прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка 22 снежня на нарадзе, у час якой і было абмеркавана гэта актуальнае пытанне. У яе рабоце прынялі ўдзел прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, першы віцэ-прэм'ер Васіль Далгалёў, кіраўнікі шэрагу міністэрстваў і ведамстваў.

Асноўная ўвага ў ходзе размовы была звернута на ўзровень і выплату зарплаты ў бюджэтнай сферы і ў сельскай гаспадарцы. Кіраўнік дзяржавы назваў факты, якія сведчаць аб тым, што ў шэрагу выпадкаў аплата працы не забяспечвае мінімальны спажывецкі бюджэт. А гэта ў сваю чаргу вядзе да адсутнасці ў работніка матывацый да працы. Так, у верасні малады настаўнік атрымліваў за сваю работу 8-9 мільёнаў рублёў, што не пакрывала нават яго пражытачнага мінімуму.

Нельга назваць нармальным і такое становішча спраў, калі сельскія працаўнікі зарабляюць у 3-4 разы менш, чым рабочыя прадпрыемстваў, дзе перапрацоўваецца сельскагаспадарчая прадукцыя. Аб гэтым красамоўна гавораць такія прыклады. Калі кіраўнікі калгасаў атрымліваюць зарплату ад 25 да 50 мільёнаў рублёў, то дырэктары мясакамбінатаў, малочных заводаў маюць ад 100 да 150 мільёнаў і нават вышэй. Дарэчы спытаць па-народнаму, заўважыў прэзідэнт, хто з іх больш важны? Чаму прадукцыя ў вытворцаў у 4 разы таннейшая, чым у перапрацоўшчыкаў? Нарэшце, справядліва будзе задацца і такім пытаннем: чаму зарплата ўрачоў і настаўнікаў у два разы ніжэйшая, чым у рабочых некаторых прадпрыемстваў? Прэзідэнт запатрабаваў ад урада неадкладна адрэгуляваць яе ў тых сферах, дзе гэта неабходна.

Першы віцэ-прэм'ер Васіль Далгалёў, які выступіў з дакладам на нарадзе, назваў шэраг мераў, якія выпрацаваў урад па ліквідацыі перакосаў пры фарміраванні заработнай платы. Пры гэтым ён падкрэсліў, што мінімальная заработная плата як інстытут зжыла сябе. Цяпер яна складае 8,6 працэнта ад мінімальнага спажывецкага бюджэту, што не адпавядае сацыяльным патрабаванням нашага жыцця. Першы віцэ-прэм'ер выказаўся за рэгуляванне зарплаты па прафесійнай прымеце. Ён паведаміў аб увядзенні ў дзеянне новай рэдакцыі Адзінай тарыфнай сеткі, згодна з якой будуць уводзіцца штогадовыя персанальныя надбаўкі для працаўнікоў бюджэтнай сферы, у тым ліку для работнікаў навукі.

Важным момантам для павышэння пакупной здольнасці павінны стаць меры па ліквідацыі перакрыжаванага субсідзіравання. Пакуль жа існаванне гэтага метаду дае магчымасць мець ільготы па плаце жыллёва-камунальных паслуг як уладальнікам высокіх, так і нізкіх даходаў.

У падтрымку гэтых мераў выступіў і кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч. Ён падкрэсліў, што адсутнічаюць механізмы па рэалізацыі канцэпцыі заработнай платы, з дапамогай якіх трэба аднавіць яе стымулюючую ролю. Міхаіл Мясніковіч адзначыў таксама, што нельга папракаць работнікаў прамысловасці за іх зарплаты, якія выглядаюць высокімі на фоне даходаў працаўнікоў вёскі. Нельга забываць, што прамысловы комплекс краіны мае даволі высокія тэмпы вытворчасці, па сутнасці, цягне на сабе ўсе бюджэтныя галіны. А так званыя "пікі" вялікіх зарплат і службовых акладаў, якія існуюць у шэрагу сфер, трэба знімаць за кошт прагрэсіўнага падаткаабкладання.

Аб распрацоўцы ўрадам збалансаванай сістэмы заработнай платы паведаміў прэм'ер-міністр Сяргей Лінг. Прычым, гэта сістэма павінна пачаць працаваць ужо з новага года. На яго думку, таксама няма неабходнасці тармазіць зарплату, калі яна абгрунтаваная, калі прадпрыемства павялічвае аб'ёмы вытворчасці, экспарту.

Падводзячы вынікі ўсяго таго, што было сказана, кіраўнік дзяржавы паставіў задачу перад урадам да канца першага квартала 2000 года так адпрацаваць сістэму заработнай платы, каб яна была справядлівай у адносінах да людзей.

**БЕЛТА.**



### ЛОЖКАРИ

**На этом снимке (в центре) 5-летняя Настя Черинова — солистка фольклорного детского ансамбля "Ложкари". Он создан недавно в дестком садике "Солнышко" в г. Кричеве. Дети исполняют белорусские народные мелодии.**

**Настя любит музыку, песни и сама поэт.**

**Фото Валерия БЫСОВА.**

● *Парады бывалых*

## *Што і як піць*

Кажуць, што алкаголь — зло. Аднак гэта калі ім злоўжываць. А наогул піць не толькі можна, але і трэба. Для нашага ж здароўя. Толькі піць з розумам, а не "усё, што гарыць". І пад завязку. Кіруючыся прыведзенымі ніжэй парадамі, вы не толькі зможаце граматна выбраць напой, але і правільна выпіць яго.

**Каньяк.** Каб вызначыць якасць каньяку, наліце яго крыху ў бакал і дакраніцеся пальцам да вонкавай сценкі, затым паглядзіце з другога боку бакала. Калі адбітак пальца бачны, то перад вамі якасны каньяк. Піць каньяк неабходна пры пакаёвай тэмпературы, выкарыстоўваючы бакал сярэдняга памеру ці з малой чаркі з тонкага шкла. Звычайна каньяк п'юць пасля яды ў чыстым відзе, аднак апошнім часам у Еўропе стала модным дабаўляць у каньяк лёд.

**Гарэлка.** Саладкаваты прысмак гарэлкі сведчыць аб яе нізкай якасці. Гарэлка павінна быць добра ахаладжана. Для гэтага бутэльку з гарэлкай трэба трымаць некалькі гадзін у халадзільніку. Тое ж рэкамендуецца рабіць і з чаркамі для гарэлкі.

**Віно.** У добрага віна корак не апускаецца ніжэй за рыльца, а вакол яго не павінна быць падцёкаў. Бакал для віна трэба браць з белага шкла, лепш з хрусталю ідэальнай празрыстасці. Ножка бакала дазваляе трымаць яго ў руцэ, не саграваючы змесціва. Для белых він выкарыстоўвайце вузкія бакалы, для чырвоных — шырокія. Налівайце белае віно ў бакал у большай колькасці, чым чырвонае.

● *Хочаце — верце*

## Колькі ў свету "канцоў"?

Ёсць магія круглых дат. Канец стагоддзя заўсёды выклікае ажыўленне грамадскай думкі, а яно нярэдка выліваецца ў рэвалюцыю. Што ж казаць аб канцы тысячагоддзя? Даем агляд некаторых прароцтваў напярэдадні канца другога тысячагоддзя ад нараджэння Хрыстова.

Чуллівым людзям прыходзяць на розум думкі аб канцы свету. Так было тысячу гадоў таму, так гэта ёсць і цяпер. Прадказальнікі ўсіх масцей, рас і рэлігій прадказваюць неймаверныя рэчы. Мала хто прадказвае спакойны і ціхамірны пераход у трэцяе тысячагоддзе. Нават абнаўленню чалавецтва павінны папярэднічаць выратавальныя ахвяры.

Адно з прароцтваў гаворыць, што ў бліжэйшыя гады, калі не месяцы, стары парадак рэчаў на планеце загіне і ўзнікне сусветны ўрад. Начале яго стане правадыр незвычайны, проста-такі злавесны прыгажосці і прывабнасці, які ўмее заваражыць масы, аднак на справе з'яўляецца ўвасабленнем сусветнага зла. Яго дзеянні прывядуць да трэцяй сусветнай вайны, у ходзе якой загіне палова чалавецтва. Супраць сусветнага ўрада выступіць кітайскае войска колькасцю ў 200 мільёнаў чалавек. Планета будзе ўсыпана горамі трупаў! Трэць марскіх жывёл і рыб загіне ад рускай ці амерыканскай ядзернай зброі.

Другі, хаця і падобны сцэнарый. Хрысціянства, ужо без таго сказанае, камчаткова выраджваецца. Чалавецтва загразне ў грахах, і Тварэц не дазволіць гэтага людзям. Народы пачнуць знікаць з зямлі адзін за другім, як біблейскія Садом і Гамора, аднак умяшанне Дзевы Марыі спыніць караючую руку, зло знікне ў ачышчальным агні, а на зямлі настануць усеагульны мір і счасліваe жыццё. Побач з псеўдарэлігійнымі сюжэтамі стаяць псеўданавуковыя. У момант падыходу новага тысячагоддзя, гаворыць адзін з іх, паверненца зямная вось, поры год і кліматычныя зоны зменяцца амаль адначасова. Акіяны скалынуцца, як вада ў перакуленым чайніку, і зальюць Каліфорнію і Брытанію. Загінуўшых будуць лічыць мільёнамі і хаваць у брацкіх магілах. Затое тыя, хто застанецца ў жывых, дадуць жыццё новаму біялагічнаму віду — звышчалавецтву. На цяперашніх людзей гэтыя анёлападобныя істоты будуць глядзець з тым жа пагардлівым замілаваннем, з якім мы глядзім на малпаў.

Гэтыя тры прыклады — толькі верхавіна айсберга. Вылічваюцца такія прагнозы тысячамі.

Многія з тых, хто чакае другога прышэсця Хрыста, вераць, што не памруць, а будуць узнесены прама на неба, якое разам з тым будзе адначасова і зямлёй. Найбольшую экзальтацыю такія вераванні набываюць у рознага кшталту хрысціянскіх сектах, у прыватнасці, на Далёкім Усходзе. Секты, у сістэме якіх апакаліпсічныя настроі закладзены першапачаткова, перажываюць нечуваныя бум. Напрыклад, у 1981 годзе на Зямлі было 90 мільёнаў пяцідзесятнікаў, а сёння іх ужо больш паўмільярда.

Але якімі б камічнымі ні былі многія прароцтвы, у масе сваёй яны складаюць рэальную сілу, якая пагражае гісторыю кожнага верставога слупа круглай даты. У адчуванні, што існуючая цывілізацыя паміраe, ёсць нешта ап'яняльнае і, магічна... рэальнае. Гэта вера разам з уяўленнем аб непазбежным канцы свету — неад'емная рыса заходняй культуры. Камунізм — не больш чым адно з яе адлюстраванняў.

**Па матэрыялах друку.**

## Апошні зямны прытулак



Ёсць у Лабковіцкай сельскай бальніцы медыка-сацыяльныя палаты. У іх каля 20 пакінутых старых. 80% пенсіі з іх вылічваюць за ўтрыманне. Да святаў ім прывозяць пасылкі: цукеркі, каўбасы, падарункі.

М.В.Язерская родам з вёскі Камароўка Крычаўскага раёна. Яна працавала ў калгасе, муж загінуў на вайне. 5 год назад яе прывезлі сюды, дома адмарозіла ногі, урачы выратавалі, але аднялі пальцы на нагах.

Сярод пакінутых і мастак Саша. Ён малюе. І на здымку яго малюнак "Ісус Хрыстос" трымае М.В.Язерская. Ёй 79 год. Барані нас Божа ад такога лёсу і пакінутай старасці...

**Валерый БЫСАЎ.**

## *Вроде анекдота*

Утром после недельного запоя муж тащится в поликлинику в надежде получить бюллетень. Со страшной головной болью по ошибке вваливается в кабинет к гинекологу. С огромным своим животом садится напротив доктора. А гинеколог тоже после жуткого похмелья. Смотрит на живот мутными глазами:

— Э, матушка! Да вы беременны! Ну-ка, дайте послушаю! Точно, беременны!

Злой, неопохмелившийся муж бежит домой:

— Что ты, злодейка, наделала! — кричит с порога на жену.

— Это все твои постоянные штучки: "Дай, я сверху, дай, я сверху!"

*А вы чулі пра гэта?*

## Шукала вострых адчуванняў

Швейцарская парашутыстка Марыя Надэльхофер, знаходзячыся на адпачынку ў Бразіліі, вырашыла скочыць з парашутам галяком.

Але гэтая, здавалася б, бяскрыўдная прыгода ледзь не закончылася трагічна: парашутыстку ў касцюме Евы ветрам знесла на тэрыторыю турмы для асуджаных за сэксуальныя злачынствы. Уяўляеце рэакцыю гвалтаўнікоў, якім ахвяра звальваецца з неба прама на галаву! Шукальніцу вострых адчуванняў ледзь выратавала турэмная ахова.

### *Колькі зорак у сусвеце?*

Астраномы вядуць улік не асобных нябесных зорак, а цэлых галактык, улічваючы, што ў сярэднім кожная з іх утрымлівае 100 мільярдаў зорак.

У 1996 годзе астранамічныя абсерваторыі вызначылі, што з нашай планеты можна ўбачыць 50 мільярдаў галактык. Са з'яўленнем арбітальнага тэлескопа імя Хабла, які пазбаўлены памех зямной паверхні, колькасць бачных галактык скокнула да 125 мільярдаў. Гэты тэлескоп пранік у такія далі Сусвету, што бачыць галактыкі, што ўтварыліся праз адзін мільярд гадоў пасля першапачатковага выбуху, які нарадзіў наш Сусвет. Так што зараз, каб дададцца пра колькасць зорак у бачным нам Сусвеце, трэба прыпісаць да ліку 125.000.000.000 яшчэ адзінаццаць нулёў.

### *Мудрыя сімфоніі для новароджаных*

У ЗША маці новароджаных сталі бясплатна выдаваць кампакт-дыскі з запісам класічнай музыкі. Амерыканскія вучоныя выявілі, што рэгулярнае праслухоўванне класікі ў раннім узросце садзейнічае развіццю інтэлекту дзяцей. У прыватнасці, кампакт-дыск "Мудрыя сімфоніі" ўручаецца кожнай маці ў радзільным доме разам з пакетам падгузнікаў. На дыску запісаны 16 сусветна вядомых класічных твораў. Сярод іх 8-я сімфонія Бетховена, творы Моцарта, Баха.

**Па матэрыялах друку.**


## ВЫХАДНЫЯ ДАНЫЯ

**"Беларускі Усход".** Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** 213670, Магілёўская вобл., Хоцімскі р-н, в.Маркаўка. Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 22-9-89, намесніка гал. рэд. — 22-00-9.

**Рэгістрацыйны N141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

Адказнасць за дакладнасць фактаў, падзей, прозвішчаў і іншай інфармацыі нясуць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 6 студзеня 2000 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Тыраж _ 67 экз. Аб'ём І друк. аркуш. Заказ № 1.

**Галоўны рэдактар В.А. ДАЎГАЛЁЎ.**